# наша свабода

№16 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

18 КРАСАВІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




стр.6

# «Старший брат» наведаў Мінск. Праездам

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**У нядзелю у Мінск прыязджаў з рабочым візітам расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін. Беларусь стала першай краінай, якую ён наведаў пасля абрання прэзідэнтам.**

Перад вылетам, у аэрапорце «Унукава» У.Пуцін заявіў, што маршрут ягонага першага падарожжа абраны невыпадкова: «З Беларуссю ў Расіі асаблівыя стасункі, якія вызначаюцца Саюзнай дамовай».

Мінск загадзя рыхтаваўся да прыезду саюзнага госця. У пятніцу цэнтральны праспект Ф.Скарыны быў практычна блакіраваны для аўтамабілістаў. На асобных участках, дзе аднаўлялася дарожная разметка, праспект поўнасцю перакрывалі. Адмысловыя камісіі прымушалі арганізацыі, офісы, прадпрыемствы, крамы, што знаходзіліся на шляху следавання У.Пуціна, прыводзіць у парадак фасад будынкаў. Камунальныя рабочыя фарбавалі светлафоры, бардзюры, дарожныя загароджы, ліхтарныя слупы. У суботу мэр Мінска Міхаіл Паўлаў асабіста аглядаў праспект, прагульваючыся пешшу. Па словах дасведчаных асобаў, сталіцу Беларусі так не рыхтавалі ні для каго – ні для М.Гарбачова, ні для Б.Ельцына, ні для Б.Клінтана.

Акрамя касметычных захадаў, былі яшчэ прадпрынятыя надзвычайныя захады бяспекі. Ва ўсіх дамах вакол плошчы Перамогі супрацоўнікі «органаў» апячаталі сутарэнні і паддашкі. Жыхарам кватэраў, чые вокны выходзяць на плошчу, забаранілі з 10 да 14 гадзінаў у нядзелю адчыняць форткі і вокны.

Уладзімір Пуцін прызямліўся ў аэрапорце «Мінск-2» у 13.45. У склад ягонай дэлегацыі ўваходзілі міністр энергетыкі Віктар Калюжны і міністр гандлю Міхаіл Фрадкін. У аэрапорце іх сустракалі беларускі прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын, кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, намеснік прэм'ер-міністра Урал Латыпаў, паслы Беларусі ў Расіі і Расіі — у Беларусі Уладзімір Грыгор'еў і Вячаслаў Далгоў.


Фота IREX/ProMedia

Візіт пачаўся з ускладання вянкоў да манумента Перамогі. Потым кіраўнік расійскай дзяржавы накіраваўся ва ўрадавую рэзідэнцыю «Заслаўе-2», дзе перамаўляў з А.Лукашэнкам сам-насам на працягу дзвюх гадзінаў.

Падчас перамоваў абмяркоўваліся праблемы сінхранізацыі планаў дзейнасці Беларусі і Расіі ў эканамічнай, палітычнай і абароннай сферах. На прэс-канферэнцыі У.Пуцін паведаміў аб тым, што былі таксама дасягнутыя дамоўленасці аб супрацоўніцтве Беларусі і Расіі ў ваеннай і ваенна-тэхнічнай сферах. Расійскі прэзідэнт падкрэсліў, што «абаронныя і палітычныя планы не могуць быць пабудаваныя на зыбкім эканамічным падмурку». Паводле ягоных словаў, галоўным накірункам рэалізацыі Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы з'яўляецца менавіта эканамічны накірунак. І тут размова ідзе найперш пра адзіную падатковую палітыку, адзіную мытную прастору і аднолькавае тарыфнае рэгуляванне.

Пад канец візіту Уладзімір Пуцін шчыра падзякаваў жыхарам Беларусі за «добразычлівы і радушны прыём». Каля 21 гадзіны У.Пуцін вылецеў у Лондан.

Тым часам дзяржсакратар Саюза Беларусі і Расіі Павел Барадзін, які прыехаў у Мінск разам з У.Пуціным, у гутарцы з журналістамі вызначыў асноўныя праблемы, якія, на ягоную думку, трэба вырашыць у межах Саюзнай дзяржавы. Паводле ягоных словаў, гэта адзіны рубель, адзіная падатковая база, адзіная мытная прастора, мяжа, абарона і грамадзянства. У бліжэйшы час, па словах дзяржсакратара, у Саюза Беларусі і Расіі з'явіцца сваё інфармацыйнае агенцтва, што будзе асвятляць дзейнасць Саюза, і некалькі газетаў.

П.Барадзін заявіў таксама, што ў бліжэйшыя тры-чатыры гады да Саюза Беларусі і Расіі далучацца яшчэ Украіна і Казахстан. Аднак ён не ўдакладніў, на чым менавіта базуецца гэтая ягоная ўпэўненасць.

Дзяржсакратар паведаміў яшчэ, што ў рамках Саюза дзвюх дзяржаваў будзе створаны апарат у складзе каля 300 чалавек, якія будуць займацца «вырашэннем канкрэтных пытанняў і праблемаў».

Цікава, што да таго, як Уладзімір Пуцін назаве імя новага расійскага прэм'ера (а гэта адбудзецца ніяк не раней 7 траўня – дня інаўгурацыі), ён не мае фармальнага права пакідаць тэрыторыю Расіі. Бо, паводле расійскіх законаў, прэзідэнт і прэм'ер-міністр не могуць разам пакідаць краіну. Як відома, У.Пуцін сумяшчае гэтыя дзве пасады, і таму мусіць быць «невыязным». Аднак ён пайшоў насуперак законам. У сваёй кнізе «Ад першай асобы» Уладзімір Пуцін прызнаўся, што ў ягонай КДБшнай характарыстыцы было пазначанае «паніжанае пачуццё небяспекі». Як іранічна пішуць расійскія аналітыкі, галоўнае, каб гэтае пачуццё не стала асноўным пры характарыстыцы Расіі.

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

- **24- 26 красавіка Беларусь наведае дэлегацыя чэшскіх парламентарыяў- дэпутатаў верхняй палаты.** У яе склад уваходзяць: Ян Румель – былы дысідэнт, кіраўнік партыі Унія Свабоды. Займаў пасаду міністра ўнутраных справаў; Міхал Жалтоўскі, былы кіраўнік Чэшскага дэмакратычнага альянса і амбасадар Чэхіі ў ЗША, цяпер кіруе камітэтам па знешніх справах у чэшскім парламенце; Томаш Пуляр – кіраўнік фундацыі «Людзі ў бядзе». У праграме візіту – азнаямленне з сітуацыяй у Беларусі, сустрэчы з афіцыйнымі і апазіцыйнымі дзеячамі нашай краіны.
- **9 траўня, у дзень Перамогі, прэзідэнты Беларусі, Расіі і Украіны плануюць сустрэцца ў месцы сутыкнення межаў трох краінаў, там дзе знаходзіцца Холм Славы.** Аляксандр Лукашэнка і Леанід Кучма ўжо далі сваю згоду на ўдзел у акцыі «Нас аб'яднае Сцяг Перамогі». Цяпер патрабуецца яшчэ згода У.Пуціна.
- **У басейне ракі Амазонкі на тэрыторыі Бразіліі знойдзенае буйнейшае ў свеце радовішча урану.** Плошча радовішча складае каля 600 квадратных кіламетраў, паведамляюць улады краіны. Аднак распрацоўка залежаў урану будзе апраўданай толькі тады, калі кошт урану на сусветным рынку падарожэе ў паўтара раза, сцвярджаюць эксперты. Бразілія цяпер займае пятае месца па аб'ёмах здабычы урану.
- **Ізраільская выведка «Масад» сцвярджае, што ісламскія тэрарысты рыхтуюць замах на жыццё папы Рымскага Яна Паўла II.** У сувязі з гэтым Ватыкан прыняў дадатковыя захады бяспекі: на плошчу Святога Пятра сцягнутыя істотныя сілы італьянскай паліцыі. Апроч таго, па ўсім перыметры плошчы ўсталяваныя 35 металаіскальнікаў.
- **У Краснаярску у хуткім часе можа з'явіцца вуліца імя Аляксандра Лебедзя.** У Краснаярскі гарсавет паступіла прапанова аднай грамадскай арганізацыі перайменаваць вуліцу Новая Зара ў вуліцу Аляксандра Лебедзя, губернатара Краснаярскага края. У падтрымку гэтай ініцыятывы ўжо сабрана 50 подпісаў. У гарсавеце не пабачылі ў такой ідэі нічога крамольнага — толькі патлумачылі, што спачатку трэба атрымаць згоду не менш як паловы жыхароў вуліцы.

# Новы старшыня АГП

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Новым кіраўніком Аб'яднанай Грамадзянскай партыі стаў віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Анатоль Лябедзька. Такое рашэнне было прынятае на з'ездзе АГП, які адбыўся 15 сакавіка. Адзіным сапернікам Лябедзькі на выбарах старшыні арганізацыі быў кіраўнік агульнарэспубліканскага стачкама прадпрымальнікаў гродзенец Валеры Леваneўскі. Аднак перавага галасоў (у 128 з 156 бюлетэняў галасы былі пададзеныя за Лябедзьку) кажа аб тым, што рэальнай альтэрнатывы ў цяперашняга старшыні проста не было.**

Былы ж лідэр арганізацыі Станіслаў Багданкевіч быў прызначаны з'ездам на новаўведзеную пасаду ганаровага старшыні АГП. З гэтай нагоды яму ўручылі букет ружаў.

На пасады намеснікаў Лябедзькі прызначаныя Аляксандр Дабравольскі, Васіль Шлындзікаў, Павел Данейка і Яраслаў Раманчук. Зрэшты, як аказалася, галоўная інтрыга з'езда была не ў тым, каго абяруць новым старшынёй (Багданкевіч заявіў аб сваім няўдзеле ў выбарах яшчэ тыдзень таму), а ў тым, якую пазіцыю прыме з'езд адносна да маючых адбыцца ўвосені выбараў у палату прадстаўнікоў: удзельнічаць у іх альбо байкатаваць. 160 дэлегатаў падчас спрэчак падзяліліся прыкладна папароўну. Кожны прыводзіў свае аргументы, але найбольш часта гучаў той, **што калі партыя пойдзе на ўдзел у выбарах, яна легітымізуе нелегітымную заканадаўчую ўладу.** Ды і наўрад ці прадстаўнікам партыі ўлады на месцах далі б перамагчы ў акругах. Асабліва пры існуючай мажарытарнай сістэме выбараў. Зрэшты, рашэнне па гэтым пытанні так і не было прынятае. Вырашылі адкласці яго да восені, калі «сітуацыя з выбарамі праясніцца крыху больш». Наўрад ці ўлады і Лукашэнка штосьці зменяць да восені, а гэта значыць, што спрэчкі працягнуцца і надалей.

На з'ездзе прысутнічалі ўякасці гасцей дэпутат шведскага парламента, аташэ французскай амбасады, Міхаіл Чыгір, жонкі палітзняволеных дэпутатаў Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, якія ў свой час у Вярхоўным Савеце 13-га склікання былі ў складзе фракцыі «Грамадзянскае дзеянне», якая складалася ў асноўным з прадстаўнікоў менавіта Аб'яднанай Грамадзянскай партыі. З'езд прыняў шэраг рэзалюцыяў, датычных сітуацыі на Беларусі, а таксама падтрымаў арганізацыю і правядзенне Усебеларускага з'езда.

Новаабраны старшыня АГП адказаў на пытанне НАШАЙ СВАБОДЫ.

***– Спадар Анатоль, пасля вашага абрання на пасаду старшыні АГП чакаюць нейкія карэнныя пераўтварэнні? Можа, яна пад вашым уплывам стане менш «кабінетнай», а больш «вулічнай»?***

– Наўрад ці нам патрэбны нейкія рэвалюцыйныя змены ў партыі, але трэба больш прафесійна скарыстоўваць тое, што ў нас ужо ёсць. Разам з тым я буду прапаноўваць некалькі новых захадаў, стварэнне новай інстытуцыі, якая б аб'яднала мажлівасці АГП і блізкіх грамадскіх арганізацыяў, – гэтакую парасонавую арганізацыю. Будуць распрацаваныя стратэгіі развіцця кожнага рэгіёна і шмат чаго іншага. А наконт вулічнасці – для нас гэта не прыярытэт. У мяне за плячыма дзесяць гадоў якраз рознай парламенцкай працы, працы ў міжнародных структурах. АГП, на мой погляд, павінна быць моцнай як на вуліцы, так і ў кабінетах, і ў гэтым формула поспеху. Зрэшты, на вуліцы павінна дзейнічаць не АГП ці там БНФ, а скаардынаваная агульная беларуская апазіцыя.




## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 940**

## Прагнозы беларускага ўрада і экспертаў МВФ

Аляксей ЗНАТКЕВІЧ

У 2000 годзе ў беларускай эканоміцы не адбудзецца росту, сцвярджаюць спецыялісты Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) у апублікаваным 12 красавіка «Аглядзе сусветнай эканомікі» (выданне фонду), якое выходзіць два разы на год. Такі прагноз МВФ адрозніваецца ад афіцыйнага прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі, згодна з якім на гэты год запланаваны эканамічны рост у памеры 2–3% валавага ўнутранага прадукту (ВУП). Эксперты МВФ прагназуюць таксама, што ў 2001 годзе эканамічны рост у Беларусі складзе 2% ВУП. «У Беларусі эканамічныя ўмовы на працягу 1999 года заставаліся складанымі, бо былі падарваныя хуткім ростам грашовай масы і, адпаведна, нарастаючай інфляцыяй і хуткім падзеннем абменнага курсу (беларускага рубля) на ўсіх сегментах валютнага рынку», – адзначаецца ў аглядзе. Эксперты МВФ лічаць, што для паляпшэння эканамічнай сітуацыі Беларусі неабходна «цвёрда прытрымлівацца жорсткай манетарнай і фіскальнай палітыкі адначасова з інтэнсіўнай лібералізацыяй і рэструктурызацыяй».

Паводле прагнозаў МВФ, рост спажывецкіх цэнаў сёлета складзе ў Беларусі 250 працэнтаў, што прыкладна адпавядае 11% штомесяц. Згодна ж з прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на год, інфляцыя прадугледжаная на ўзроўні 4,5–5,5% у месяц. ■

## Пастаўкі расійскай нафты скараціліся

Юрген ГРУБІЧ

У красавіку Расія значна скараціла пастаўкі нафты беларускім нафтаперапрацоўчым заводам (НПЗ). З 1 па 10 красавіка НПЗ атрымалі 239 тысяч тон расійскай сыравіны, або 66% да аналагічнага перыяду мінулага года. Пры гэтым калі на ВА «Нафтан» пастаўлена 100% запланаванага аб'ёму нафты, то Мазырскі НПЗ атрымаў толькі 37%.

Ва ўрадзе Беларусі скарачэнне паставак нафты тлумачаць недахопам валюты для яе закупкі.

Што тычыцца рэзкага скарачэння паставак менавіта на Мазырскі НПЗ, то незалежныя эксперты звязваюць гэта з адсутнасцю канкрэтных дзеянняў беларускага боку ў адказ на прапановы кіраўніцтва нафтагазавай кампаніі «Слаўнафта» па рэканструкцыі Мазырскага НПЗ. Як вядома, прэзідэнт «Слаўнафты» Міхаіл Гуцэрыеў яшчэ напачатку лютага абмяркоўваў праблему рэканструкцыі з А.Лукашэнкам. Апошні паабяцаў вывучыць прапановы расійскага боку і даць адказ. Аднак паўторны візіт Гуцэрыева ў Мінск напачатку красавіка сітуацыю не праясніў. Між тым, як зазначаюць эксперты, укладваць сродкі ў рэканструкцыю Мазырскага НПЗ без належных гарантыяў беларускага ўрада «Слаўнафта» не рызыкне. ■

## «Пуцін, GO HOME!»

Вольга АНЦЫПОВІЧ

16 красавіка ў Мінск прыязджаў Уладзімір Пуцін. Падчас ускладання ім кветак да вечнага агню на плошчы Перамогі людзьмі ў цывільным былі затрыманыя супрацоўнікі газеты «Навінкі» Юрась Сцефанішын і Алег Казарын. За паўгадзіны да гэтага міліцыя адабрала ў іх плакат, які яны так і не паспелі разгарнуць. На ім маладыя людзі напісалі: «Пуцін, go home!» і «Who is Пуцін?» Само ж затрыманне адбылося ў той момант, калі новаабраны прэзідэнт Расійскай Федэрацыі ўжо сядаў у свой аўтамабіль. Журналісты «Навінак», выскачыўшы на праезную частку, пачалі скандаваць: «Пуцін, вон з нашай краіны!» і «Пуцін, ідзі ў Расію!» Апошні лозунг яны выкрыквалі ўжо амаль знаходзячыся ў машыне затрыманых іх людзей.

Пасля Сцефанішына і Казырына прывезлі ў 123 аддзяленне міліцыі Цэнтральнага раёна, дзе на іх пачалі спрабаваць скласці пратакол. У першым яго варыянце адзначалася, што маладыя людзі знаходзіліся ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане і непрыстойна сябе паводзілі, у другім – што яны спрабавалі наладзіць несанкцыянаваны пікет, а ў трэцім пратаколе іх абвінавачвалі ў дробным хуліганстве. Так і невядома, якое б абвінавачванне атрымалася ў выніку, але палкоўнік міліцыі заявіў, што праблемаў з журналістамі пасля 25 сакавіка ім больш не патрэбна, і Сцефанішына з Казырыным, пратрымаўшы ў аддзяленні дзве з паловай гадзіны, адпусцілі нават без складання хоць якога-небудзь пратакола. ■




## Налепкі

Алесь ШМЯЛЁЎ

Трое маладых людзей былі затрыманыя ў чацвер непадалёк ад штаб-кватэры БНФ міліцэйскім патрулём за тое, што расклейвалі на вулічных слупах налепку «26 красавіка — «Чарнобыльскі Шлях» і налепку «STOP – AIDS», якая нядаўна з'явілася ў Мінску. Міліцыянты не знайшлі лепшага выйсця, як павесці затрыманых ва Управу БНФ і пачаць патрабаваць там у прысутных тлумачэнняў, навошта малых да «крамолы» падбухторваеце? Затым юнакі Базараў, Рудзянкоў, Шпрыкаў былі дастаўленыя нарадам у РАУС Савецкага раёна, дзе на іх былі складзеныя пратаколы «за антысанітарыю ў горадзе». ■

## Далгалёў на суд не з'яўляецца

Аляксей СТАЎСКІ



Губернатар Брэсцкай вобласці, былы віцэ-прэм'ер Васіль Далгалёў быў выкліканы Мінскім гарадскім судом у якасці сведкі па справе былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра. На першы выклік Далгалёў нават не адгукнуўся, і запыт быў пасланы паўторна. На гэтым гучным палітычным працэсе назіраецца час пачатку спрэчак. Акрамя Далгалёва, на судзе чакаюць з'яўлення яшчэ аднаго сведкі. Між тым абаронцы Чыгіра сцвярджаюць, што незалежна ад выступу апошніх абвінавачванне следства проста рассыпаецца на вачах, і абсалютна незразумела, за што цяпер Чыгіру можна вынесці абвінаваўчы прысуд. ■

## Галадоўка ў «спецпрыёмніку»

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

З 5 красавіка ў Гродне галадаў за кратамі Сяргей Мальчык – адзін з арганізатараў мітынгу, які адбыўся 25 сакавіка. Аб пачатку сваёй галадоўкі ён абвясціў адразу ў судовай зале. Суддзя Д.Дземчанка прысудзіў яму 10 сутак арышту.

Да арыштаванага дапускалі жонку, сяброў і юрыстаў з БХК. Дазвалялі перадаваць газеты і прадукты. Ён схуднеў, піў толькі ваду. Сябры прасілі яго скончыць галадоўку, але ён адмовіўся. С.Мальчык падаў скаргу на ўмовы ўтрымання. У камеры на двух чалавек знаходзяцца чатыры, спяць на баку на доле, побач – вядро-«туалет». Таксама ён спрабаваў перадаць з-за кратаў заяўку старшыні гарвыканкама А.Пашкевічу на правядзенне масавага мерапрыемства 26 красавіка. Перадаць заяўку міліцыянты, аднак, адмовіліся.

У аўторак прадстаўнікі Хельсінкскага Камітэта А.Антанюк і А.Сідзігаеў падалі скаргу ў абласны суд. Яны лічаць прысуд неаб'ектыўным і просяць скасаваць яго. Старшыня абласнога суда сп. Грынкевіч загадаў праз кур'ера даставіць справу С.Мальчыка (суды знаходзяцца на розных вуліцах). Аднак ён папярэдзіў, што іначая справа будзе разгледжаная не раней, як праз тры дні.

Прадстаўнікі БХК разумеюць, што шанцы на вызваленне С.Мальчыка з-за кратаў раней тэрміну – невялікія. Аднак нядаўна ім удалося двойчы дамагчыся свайго. Па-першае, ім не дазвалялі ўдзельнічаць у разглядзе адміністратыўных справаў А.Зацэпіна – таксама арганізатара мітынгу 25 сакавіка У.Соўца, якога міліцыя схапіла нібыта за распаўсюджванне ўлётак сярод прадпрымальнікаў. Пасля звароту ў абласны суд магчымасць абараняць такіх людзей атрымалі і прадстаўнікі БХК. Ім ужо ўдалося таксама дамагчыся, каб быў скасаваны штраф, якім быў пакараны У.Соўца. А таксама дзякуючы Хельсінкскаму Камітэту міліцыя вярнула грошы адной грамадзянцы, якая была затрыманая нібыта за ажыццяўленне «незаконнай валютнай аперацыі». ■

## Супольнасць беларускіх гісторыкаў сёння расколатая

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ

Некаторыя беларускія гісторыкі «ва ўгоду сваім палітычным прыхільнасцям прыносяць у ахвяру навуку». Пра гэта заявіў, выступаючы 14 красавіка на сесіі агульнага сходу Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ), яе прэзідэнт Аляксандр Вайтовіч. Па яго словах, сёння супольнасць гісторыкаў расколатая: некаторыя сталі «палітыкамі розных кірункаў» і, замест таго, каб працаваць у архівах, толькі «прасейваюць фактычны матэрыял», адкідаючы ім не патрэбнае. «Ідзе беспрапынная вайна», і ў гэтай вайне Інстытут гісторыі не выконвае функцыі аб'яднання гісторыкаў на пазіцыях навукі», – заявіў А.Вайтовіч. Высновы аб палітыканстве гісторыкаў акадэмік А.Вайтовіч абгрунтаваў двума прыкладамі. Першы – калі на сходзе ў Інстытуце гісторыі вопляскамі перашкаджалі гаварыць паважанаму вучонаму, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны. Другі – публікацыі і выступленні прафесара БДУ Снапкоўскага, у якіх, па словах Вайтовіча, «фальсіфікуецца гісторыя, у тым ліку гісторыя Беларускай акадэміі навук». У сувязі з гэтым прэзідэнт НАНБ Аляксандр Вайтовіч заявіў: «Зараз заканчваецца праца над «Гісторыяй Беларусі», і аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў не павінна дапусціць у ёй палітыканства». ■

## З выстаўкі суполкі «Пагоня» таямніча знікла работа

Марат ГАРАВЫ

З экспазіцыі творчай суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў у мінскім Палацы мастацтва знікла інсталяцыя Алеся Карповіча і Пятра Русака «Вясна-2000».

Выстаўку «Адраджэнне-2000», прысвечаную 82-м угодкам абвяшчэння БНР, суполка «Пагоня» адкрыла 14 красавіка. На ёй прадстаўлены больш за сто работ каля 50 аўтараў – жывапіс, графіка, скульптура, плакат, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Знікненне інсталяцыі «Вясна-2000» было заўважанае праз дзень пасля адкрыцця выстаўкі, 15 красавіка. Усе спробы кіраўніцтва «Пагоні» высветліць лёс прапажы ні да чаго не прывялі. Праўда, дзяжурныя дазорцы залы, у якой знаходзіцца экспазіцыя, паабяцалі напісаць кіраўніцтву Палаца мастацтва дакладную запіску аб зніненні твора.

Зніклая работа ўяўляе сабою нейкае падабенства абраза з вывявай, што нагадвае абліча кіраўніка беларускай дзяржавы. Гэты твор, выкананы ў стылі сяброўскага шаржу, раней публікаваўся на старонках недзяржаўнай газеты «Свободные новости». У афармленні інсталяцыі выкарыстаныя нацыянальны ручнік, беларускія рублі, якія выйшлі з абарачэння (так званыя «зайчыкі»), свежыя агуркі і слоік салёных агуркоў. Перад кампазіцыяй быў змешчаны надпіс «Час саліць агуркі». Праз некаторы час пасля адкрыцця выстаўкі слова «саліць» аказалася закрэсленым і над ім з'явілася слова «мачыць».

Два гады таму таксама ў Палацы мастацтва і таксама падчас выстаўкі суполкі «Пагоня» пры нявысветленых абставінах з экспазіцыі знікла падобная работа Алега Карповіча і Аляксея Марачкіна «Нашы лялькі». ■

## Россия предлагает Союзу единое правовое пространство

Российская сторона предлагает провести первое заседание Совета министров Союзного государства Белоруссии и России 25 апреля в Москве. Об этом сообщил первый вице-премьер России Михаил Касьянов, отметив, что «повестка дня заседания будет, вероятно, включать вопрос о бюджете Союзного государства и ряд других документов, заключение которых вытекает из договора о создании Союзного государства». На начавшихся сегодня переговорах с белорусским премьером Касьянов намерен обсудить четыре проблемы, «принципиальные для ускорения интеграции двух государств»: «это — соглашения о создании единого правового пространства, единого таможенного пространства, о контроле за перемещением военной техники и о создании единой валюты». ■

Polit.ru

## Шчукін і Статкевіч пад судом

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

24 красавіка ў будынку Мінскага гарадскога суда пачнецца разгляд крымінальнай справы па абвінавачванні дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання Валерыя Шчукіна і старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча ў арганізацыі вулічных беспарадкаў 17 кастрычніка 1999 года падчас акцыі «Марш Свабоды». Па артыкуле 186.3, парушэнні якога ім інкрымінуюцца, апазіцыйныя дзеячы могуць атрымаць да 3 гадоў турмы. Абараняць падсудных будуць адвакаты Таццяна Станкевіч і Таццяна Вардомская, старшынстваваць на працэсе будзе суддзя Ігар Крот.

Па ўсіх прагнозах, працэс не зацягнецца надоўга, і ўжо максімум праз два тыдні будзе вынесены прысуд. ■

## Рада ТБМ заклікае адзначыць мітынгамі гадавіну рэферэндуму-1995

Андрэй ВЯРЫГА

У нядзелю адбылося паседжанне Рады Таварыства беларускай мовы, на якім, апроч арганізацыйных, разглядаліся два істотныя пытанні. Першае датычыла стварэння Беларускага Нацыянальнага універсітэта. Рада звярнулася да ўсіх структураў Таварыства распачаць кампанію збору подпісаў сярод насельніцтва рэспублікі за адкрыццё БНУ і яго філіяў у Лідзе, Пінску і Оршы. Рада будзе настойваць перад Міністэрствам адукацыі РБ, каб БНУ пачаў сваю дзейнасць 1 верасня бягучага года ў Мінску. Таксама Рада ТБМ прыняла Зварот да беларускай грамадскасці адзначыць 14 мая (дзень рэферэндуму 1995 года) пікетамі і мітынгамі з патрабаваннем вярнуць народу яго гістарычную сімволіку і надаць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнай мовы краіны. ■

## Футбол: гонка распачалася

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У выхадныя распачаўся чарговы, дзесяты па ліку, чэмпіянат Беларусі па футболе сярод камандаў вышэйшай лігі. У гэтым годзе чэмпіянат абяцае быць як ніколі багатым на інтрыгу. Ёсць прыкладна шэсць камандаў, здольных змагацца за залатыя медалі, а да таго ж пакінуць эліту ў гэтым годзе аж тры каманды (адбудзецца скарачэнне вышэйшай лігі з 16 да 14 камандаў), што абвострыць інтрыгу ўнізе турнірнай табліцы.

Гульні першага тура прынеслі такія вынікі: «Белшына» (Бабруйск) – БАТЭ (Барысаў) – 1:1, «Дынама» (Брэст) – «Славія» (Мазыр) – 1:3, «Нафтан» (Навапалацк) – «Ліда» – 1:1, «Тарпеда» (Магілёў) – «Камунальнік» (Слонім) – 1:0, «Тарпеда» (Мінск) – «Лакаматыў» (Віцебск) – 1:1, «Шахцёр» (Салігорск) – «Ведрыч» (Рэчыца) – 0:0, «Дынама» (Мінск) – «Гомель» – 3:1. ■

# Очередной неизвестный визит Латыпова

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**Глава белорусского внешнеполитического ведомства и вице-премьер Урал Латыпов вновь продемонстрировал склонность к секретности. О его визите 11-12 апреля в Израиль, который был назван официальным, МИД Беларуси сообщил лишь по его завершению. Недоумение по этому поводу высказывали не только журналисты, но и представители израильского посольства в Минске. По их словам, пресс-релиз о визите У.Латыпова был распространен заранее. Однако, СМИ Беларуси хранили полное молчание. А тот факт, что вовремя своего выступления 11 апреля в Палате представителей А.Лукашенко неоднократно обращался в зал к Латыпову, который был в это время в Тель-Авиве, было воспринято многими дипломатами с веселым удивлением.**



В предыдущем месяце посещение У.Латыповым Берлина и выступление на международной конференции, по труднопонятным причинам, в Минске и вовсе пытались замолчать. Впрочем, как и состоявшуюся 8 марта беседу с заместителем министра иностранных дел Турции Айдын Шахинбашем. Все же не столь часто иностранные дипломаты столь высокого ранга посещают Минск. Об этом писала НАША СВАБОДА.

Согласно официальному сообщению МИД Беларуси, во время своего официального визита в Израиль министр иностранных дел У.Латыпов провел встречи с президентом Э.Вейцманом, своим коллегой Д.Леви, рядом министров и лидеров крупнейших партий Израиля. В ходе визита были подписаны соглашения об избежании двойного налогообложения, о поощрении и взаимной защите инвестиций, развитии образования, науки и культуры, а также и о взаимном учреждении и деятельности культурных центров. О каких-либо планах визитов израильских политиков в Беларусь по итогам визита не сообщалось. Помнится, как-то нынешний министр внутренних дел Израиля Натан Щаранский собирался посетить Беларусь. Но его знакомство с ней ограничилось беседой с У.Латыповым во время нынешнего визита последнего.

О визите У.Латыпова в Израиль была достигнута договоренность еще в январе, когда министр сопровождал своего президента на празднованиях в Вифлееме 2000-летия христианства. Однако до последнего момента его сроки почему-то скрывались от общественности. Очевидно, что визит в Израиль призван был продемонстрировать и так называемую многовекторную внешнюю политику Беларуси. На этот раз на Ближнем Востоке.

Известны довольно тесные связи, которые нынешнее руководство Беларуси установило с Ираком, Сирией, Ираном. Первое свое посольство в арабских странах Беларусь открыла в Египте. За последние два года руководитель Беларуси нанес официальные визиты в Иран, Сирию, Египет, а совсем недавно в Объединенные Арабские Эмираты. Ожидается, что в ближайшее время он посетит Тунис и Марокко. Главная цель всех этих вояжей — инвестиции и потенциальный рынок вооружений, технологии которых у Беларуси сохранились с советских времен.

Так что официальный визит вице-премьера-министра иностранных дел Беларуси Урала Латыпова в Израиль, где, кстати, проживают около 120 тысяч выходцев из Беларуси, показывает то, что Минск возлагает определенные надежды и на возможные инвестиции из Израиля. Известно, что их приток во многом сдерживается белорусским законодательством и практикой властей в отношении бизнеса. Во время своих бесед в Тель-Авиве, видимо, У.Латыпов давал пояснения своим собеседникам о безопасном для Израиля характере отношений Беларуси с арабскими странами и Ираном. Можно предположить, что его аргументация могла восприниматься положительно израильскими собеседниками. Ведь У.Латыпов считается специалистом по проблемам международного терроризма.

Склонность к скрытности в работе главы белорусского МИД некоторые наблюдатели иногда объясняют существенной разницей между декларациями и реальными результатами. Как известно, Беларусь продолжает находиться в самоизоляции. Пока далеки от поставленных целей и результаты лихорадочной активности, которую проявляет Беларусь на Ближнем Востоке. Кстати, вице-премьер У.Латыпов прибыл в Израиль по пути из Картахена (Колумбия), где он принимал участие в конференции Движения неприсоединения, куда Беларусь вступила в позапрошлом году с подачи предшественника У.Латыпова профессора И.Антоновича. По мнению многих дипломатов, членство Беларуси в Движении неприсоединения стало для министра У.Латыпова сомнительным наследием его предшественника. ■

# Злучыць Захад і Усход

## адразу трыма магістралямі збіраецца дзяржаўны сакратар Саюза Беларусі і Расіі Павел Барадзін

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Тры магістралі – гэта аўтамабільная, газавая і чыгуначная. Разам з імі будуць пракладвацца сучасныя тэлекамунікацыйныя і энергетычныя сістэмы.**

Першы раз П.Барадзін паведаміў пра свой намер на паседжанні прэс-клуба Саюза, што адбыўся напярэдадні святкавання «дня ўз'яднання» 2 красавіка. А ў мінулую пятніцу дзяржсакратар вырашыў яшчэ раз нагадаць пра свае планы.

Павел Барадзін паведаміў, што будаўніцтва ўчастка новай буйной чыгункі Брэст-Масква ўжо ўхваленае. Новая чыгунка пройдзе па маршруце Парыж-Берлін-Варшава-Мінск-Масква і будзе мець вузкую еўрапейскую каляіну, што дазволіць скараціць час падарожжа адразу на некалькі гадзінаў (тыя, што звычайна трацяцца на мяжы Польшчы і Беларусі на замену колаў). Чыгунка будзе пракладвацца паралельна з ужо існуючай.



Будаўніцтва будзе весціся ў рамках Еўразійскага транспартнага калідора, які пройдзе па тэрыторыях Беларусі і Расіі. Павел Барадзін адзначыў, што ідэя праекта «была ўхваленая тры гады таму прэзідэнтамі Расіі і Францыі, а таксама канцлерам ФРГ». Ён дадаў таксама, што пасля стварэння Саюза Беларусі і Расіі «з'явілася рэальная магчымасць» рэалізацыі праекта, ініцыятарамі якога выступілі буйныя германскія кампаніі *Ferrostahl*, *RWE* і французская *Dumez-GTM*. Паводле папярэдніх разлікаў, што былі праведзеныя замежнымі экспертамі, кошт праекта можа складаць каля 15 мільярдаў долараў.

Як запэўнію журналістаў П.Барадзін, «усе інвестыцыі будуць замежнымі, а Расія і Беларусь будуць удзельнічаць у праекце матэрыяльнымі і працоўнымі рэсурсамі». Па словах прадстаўнікоў германскіх і французскай кампаніяў, што таксама прысутнічалі на прэс-канферэнцыі дзяржсакратара, рабочыя групы разглядалі розныя варыянты распалажэння перагрузачнага тэрмінальнага комплексу дзеля грузапатокаў з Еўропы ў Азію. Аднак эксперты прызналі, што самым танным варыянтам дзеля размяшчэння такога комплексу будзе Масква, «дзе ўжо ёсць уся неабходная інфраструктура».

Як паведамляе расійскае інтэрнэт-выданне «Газета.Ru», прэс-сакратар Саюза Аляксей Ядошкін удакладніў, на што менавіта будуць патрачаныя 15 мільярдаў долараў. Гэтая сума не ўключае ў сябе выдаткі на пабудову газаправода, які ўжо цяпер падведзены да беларускай мяжы – у хуткім часе пачнецца чарговы этап ягонага будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі. Усе сродкі пойдуць на аўтамагістраль (3-4 мільярды долараў) і на чыгунку (8-10 мільярдаў). Апроч таго, з тых жа 15 мільярдаў будзе фінансавацца правядзенне ўсіх неабходных камунікацыяў, тэлефоннай сеткі ўздоўж усёй магістралі – па словах П.Барадзіна, яна будзе «такой жа, як у еўрапейскіх краінах». Чакаецца, што ўсе падрыхтоўчыя працы будуць праведзеныя да пачатку наступнага года. Рэалізацыя праекта пачнецца ў 2001 годзе і зойме, зноў-такі паводле разлікаў П.Барадзіна, 4-5 гадоў.

Новая аўтамагістраль Брэст-Масква будзе пракладвацца паралельна існуючай трасе M1/E30. Яна будзе платнай. Па словах дзяржсакратара Саюза Беларусі і Расіі, «кіраўнікі транспартных комплексаў нашых краінаў таксама ўхвалілі гэты праект».

П.Барадзін адзначыў, што ажыццяўленне гэтага «праекта стагоддзя» дазволіць стварыць тысячы працоўных месцаў у Беларусі і Расіі, а таксама прыцягне новыя інвестыцыі ў эканоміку абедзвюх краінаў. Гэтае будаўніцтва дазволіць знізіць сабекошт перавозкі грузаў. Уласна кажучы, асноўнай мэтай будаўніцтва ставілася забяспечыць танныя грузаперавозкі з Заходняй Еўропы ў Паўднёва-Усходнюю Азію. Паводле папярэдніх разлікаў, перавозка 1 тоны грузаў будзе каштаваць 5-10 долараў, а таксама скароціць час транспарціроўкі грузаў на два-тры тыдні.

Некаторыя назіральнікі мяркуюць, што новыя магістралі будуць пракладвацца незалежна ад таго, ці будуць заходнія інвестары ўкладваць грошы ў іх будаўніцтва.

Цікавая дэталь: Беларусь зарабляе немалыя грошы на перастаноўцы вагонаў з еўрапейскіх рэйкаў на беларуска-расійскія (і наадварот). Калі новая чыгунка з еўрапейскай каляінай будзе пабудаваная, наша краіна згубіць такую добрую крыніцу фінансавання. Таму расійскія эксперты не выключаюць магчымасці, што Аляксандр Лукашэнка выступіць супраць будаўніцтва новай чыгуначнай магістралі. ■

# Дзве сесіі Усебеларускага з'езда

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

У нядзелю адбылося чарговае паседжанне аргкамітэта па правядзенні Усебеларускага з'езда. Паседжанне спачатку меркавалі правесці ў гасцініцы «Свіслач», але арганізатары не здолелі дамовіцца, таму сабраліся ў Таварыстве беларускай мовы. Штаб-кватэра ТБМ не змагла ўмясціць усіх запрошаных і сход перайшоў у сядзібе БНФ. Асноўнымі пытаннямі сталі час і месца правядзення, а таксама мова, на якой з'езд павінен весціся. Калі праблему з мовай вырашылі адносна хутка (беларуская, але пры неабходнасці можа ўжывацца і руская), то наконт часу і месца правядзення спрачаліся даволі доўга. Прапановы былі, па сутнасці, дзве: першая – правесці з'езд восенню, другая – правесці з'езд у дзве сесіі – у чэрвені і ў верасні.

Першую прапанову падтрымалі ўсе партыі і рухі, якія маюць досвед у падрыхтоўцы такіх акцыяў: БНФ, АГП, сацыял-дэмакраты і іншыя. Яны аргументавалі свой выбар тым, што акцыя павінна быць добра падрыхтаванай, інфармацыйна і фінансава забяспечанай, выбары дэлегатаў на з'езд павінны быць рэальна праведзеныя па ўсёй краіне. Усе грамадзяне Беларусі павінны азнаёміцца з мэтамі з'езда і з дакументамі, якія там будуць прынятыя. Такая падрыхтоўка зойме не меней чатырох месяцаў.

Другая частка аргкамітэта выказвала прапановы самыя розныя: ад правядзення з'езда ў Вільні праз месяц – да «наладжвання маёўкі амаль у чыстым полі». Як аргумент імі вылучаліся доказы, што нельга губляць ініцыятыву, «бо ідэю могуць перахапіць сілы, якія не маюць ніякага дачынення да лёсу Беларусі». Напрыклад, ім бачыцца бы ўжо зараз вядома, што БПСМ і падобныя да яго арганізацыі збіраюцца вылучаць сваіх дэлегатаў, якія фактычна могуць сарваць працу. Апроч таго, увосень палітычная сітуацыя можа значна пагоршыцца, што не дасць магчымасці правесці Усебеларускі з'езд на тэрыторыі Беларусі.

У выніку большасцю галасоў было вырашана праводзіць Усебеларускі з'езд у дзве сесіі: першая – 17-18 чэрвеня, а другая – у першыя дні верасня.

Частка сябраў аргкамітэта катэгарычна не згадзілася з такім рашэннем: нельга за месяц правесці ні сур'ёзную інфармацыйную кампанію, ні добрае інфармаванне міжнародных структураў наконт працы з'езда, ні вылучэнне дэлегатаў, якія б сапраўды прадстаўлялі большую частку беларускага народа. На іх думку, пры няякаснай падрыхтоўцы мерапрыемства ёсць небяспека, што з'езд ператворыцца ў звычайнае паседжанне сябраў найбольш вядомых апазіцыйных партыяў і рухаў і не стане народным.

А тое, што ўлады будуць перашкаджаць правядзенню Усебеларускага з'езда, вядома ўжо зараз. Так, паседжанне аргкамітэта павінна было адбывацца ў гасцініцы «Свіслач», дзе для гэтага арандавалі залу. Але ў апошні момант адміністрацыя «Свіслачы» адмовіла ў арэндзе без тлумачэння прычынаў, хоць грошы ўжо былі пераведзеныя на іх грашовы рахунак. ■

# Мінскі касцёл святога Роха рыхтуецца да фестывалю духоўнай музыкі

**Вольга ПАЛОНСКАЯ**

**Мінск, 17 красавіка. Завяршаецца падрыхтоўка да фестывалю духоўнай музыкі «Залатагорская ліра», які пройдзе 23-30 красавіка ў мінскім касцёле св. Роха. Па словах члена аргкамітэта фестывалю Віктара Кісценя, удзел у шасці фестывальных канцэртах возьмуць калектывы і сольныя выканаўцы духоўнай музыкі з Мінска, Гродна і Магілёва.**

Фестываль адкрыецца новай канцэртнай праграмай арганнай музыкі музычнага таварыства касцёла св. Роха, куды ўваходзяць маладзёжны ансамбль «Золак», хор «Залатая Горка», выканаўцы Тацціяна Цыбульская, Віктар Скарабагатаў, Ганна Каржанеўская. У наступных канцэртах выступяць, у прыватнасці, такія мінскія калектывы, як хор «Голас душы» (касцёл св. Сымона і Алены), хор польскай песні (Дом ветэранаў), камерны хор «Чыстая крыніца» (Палац культуры Мінскага трактарнага завода), аркестр «Санантэ» пад кіраўніцтвам Івана Касцяхіна (саюз моладзі «Яднанне»), аркестр старажытнай музыкі «Рычаркар» (Палац культуры прафсаюзаў), маладзёжны хор «Сардзіс», паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зніч» (Галіна Дзягілева). На закрыцці фестывалю выступіць хор *«Gloria»* мінскага Кафедральнага касцёла.

В.Кісцень падкрэсліў, што арганізатары і выканаўцы фестывалю працуюць на добраахвотнай аснове, таму ўваход на ўсе канцэрты вольны.

Назва фестывалю напрамую звязаная з месцам ягонага правядзення. Мінская Залатая Горка мае сталыя музычныя традыцыі. У 19-м стагоддзі, напрыклад, тут размяшчалася музычнае вучылішча, дзе навучалі арганістаў.

Будаўніцтва касцёла, у якім будзе праходзіць фестываль, было завершанае ў 1861 годзе. Пасля рэстаўрацыі ў 1982 годзе ў ім адкрылася зала камернай і арганнай музыкі Белдзяржфілармоніі. Сучасны арган зроблены ў 1984 годзе чэхаславацкай фірмай *Rieger-Kloss*. З 1991 года паралельна з філарманічнымі канцэртамі ў касцёле праходзяць набажэнствы. ■

# Издержки тотального контроля

## Благотворительную помощь люди оказывают людям, но не тоталитарному государству

**Геннадий Грушевой отвечает на вопросы корреспондента НАШАЙ СВАБОДЫ.**

Недавно общественная гуманитарная организация Фонд «Детям Чернобыля» отметил 10-летие своей деятельности. В 1997 году Фонд попал в число тех наиболее крупных благотворительных структур, которых власти сочли финансовыми донорами оппозиции и решили ликвидировать. Естественно, был позабыт огромный вклад этих организаций в образование, лечение, оздоровление населения Беларуси. На президента Фонда «Детям Чернобыля» Геннадия Грушевого ради устрашения даже завели уголовное дело. В отличие от Фонда Сороса и фонда «Восток-Запад», деятельность которых запретили якобы из-за неуплаты налогов, Фонду «Детям Чернобыля» удалось выстоять благодаря поддержке 40.000 граждан, которые прислали письма на имя президента. Спустя два года, Геннадию Грушевому вручали в Норвегии премию имени Рафта за вклад в гуманизацию мира. (Такая же премия вручена известной правозащитнице Елене Боннер).



***– Геннадий Владимирович, известно, что у вашего Фонда часто возникают разногласия с официальным департаментом гуманитарной помощи. Чем это вызвано?***

– С 1991 по 1994 год Фондом «Детям Чернобыля» была создана эффективная система распределения международной гуманитарной помощи для Беларуси. В то время около 70% необходимых медикаментов и медицинской техники республика получала благодаря связям белорусских неправительственных организаций с международными благотворительными фондами. Наша система работала настолько эффективно, что я в 1994 году внес в Совет министров предложение включить в государственный план по чернобыльской программе объем поддержки от негосударственных организаций. По моим расчетам, тогда мы могли бы облегчить бремя государственных расходов на Чернобыльскую программу на 10–12%, а государство переводило бы эти средства на иные цели. Условием было бы открытое партнерство между государством и негосударственными общественными структурами.

Но стремление режима «огосударствливать» все и вся в республике привело к полному контролю со стороны А.Лукашенко над потоками гуманитарной помощи. Департамент, который ввел лицензирование деятельности благотворительных организаций, был придуман для того, чтобы «навести порядок», а другими словами, подчинить нас и международных доноров воле президента, который до сегодняшнего дня лично ставит подпись на разрешение любого международного гуманитарного конвоя. Делает это он для того, чтобы затем сказать: «Это я, Лукашенко, передал вам эти медикаменты, эти парты, эти холодильники, это я дал вам право поехать за рубеж, это я ваш настоящий и единственный благотворитель». Ведь тот, кто держит в своих руках «краник» социальной помощи, владеет общественной поддержкой. Таким образом Лукашенко получил еще один инструмент влияния на электорат.

***– В свое время это привело к тому, что часть ваших партнеров не смогли отправлять в Беларусь гуманитарную помощь, так как не были занесены в официальные, так сказать, реестры. Какие реальные потери сегодня несет Беларусь от вмешательства властей в деятельность благотворительных фондов?***

– Во-первых, это привело к тому, что многие зарубежные партнеры, которые столкнулись с лишением права решать «кто, когда и какую помощь может получать», прекратили работать с Беларусью и переориентировались на другие страны. Многие вынуждены были резко ограничить свою благотворительную работу, и гуманитарные конвои значительно уменьшились. Большинство гуманитарных организаций стремится, привезя сюда помощь, тут же распределить ее населению. Они хотят видеть своими глазами, кто получает эту помощь. Установленный порядок исключает возможность контроля этих организаций над распределением помощи, потому что их груз еще должен отлежать на таможенных складах несколько недель, пока Лукашенко не поставит свою личную подпись на документах. Они не могут терять столько времени и просто уезжают. Зачастую их воля вовсе не учитывается, и решение «кому помочь?» принимают местные руководители.

К примеру, два дня назад из Буда-Кошелево уехала группа саксонской сети гуманитарных организаций. Ее руководитель Георг Титцен оказывает разностороннюю гуманитарную помощь жителям Буда-Кошелева. Обычно он выполняет 2-3 конвоя в год по 10-12 грузовиков, и его помощь значительно превосходит то, что может выделить районный бюджет. Готовясь к поездке, он надеялся собственноручно раздать детям пасхальные подарки. Бог с ним, с остальным имуществом: медикаментами и оборудованием. Титцен дважды переносил срок отъезда в Германию, жертвуя своим временем, но он уехал ни с чем. Пасхальные подарки остались опечатанными на складах. А ведь Георг Титцен в течение 9 лет оказывал серьезную поддержку загрязненному радиацией району.

Поэтому не стоит удивляться тому, что даже, по самым оптимистическим подсчетам, гуманитарная помощь Беларуси сократилась примерно в три раза.

***– А выпады Лукашенко против Запада сыграли или не сыграли существенную роль в сокращении международной гуманитарной помощи?***

– Конечно! Его оскорбительные высказывания о целях и намерениях наших партнеров, о том, что 90% помощи не идет на нужды людей, по-человечески глубоко обидели многих, и они перестали работать с Беларусью. Когда в 1997 году начались преследования Фонда и на его руководителей завели уголовные дела, многие наши партнеры заявили о своем нежелании сталкиваться с бесправием и беспределом, которые творятся в нашей стране.

***– Геннадий Владимирович, сейчас Палата представителей рассматривает Закон о гуманитарной помощи. Что Вы можете сказать о нем?***

– Я думаю, это следующий шаг к тотальному подчинению гуманитарных поставок правительству, еще одно неразумное творение нашего законодательного органа. Не понимая толком, что такое гуманитарная помощь, орган стал разрабатывать какой-то порядок в получении добровольной помощи из-за рубежа. Я многократно предлагал разрабатывать закон о благотворительной деятельности, а не о гуманитарной помощи. Во всех странах Европы существуют такие законы, регулирующие благотворительную деятельность.

Рассматриваемый у нас закон подрывает добровольческую основу гуманитарной помощи, сводит это к определенным должностным функциям. Он уничтожает фундаментальное право человека – право по своей воле помогать друг другу и заниматься благотворительностью. Я не хочу делать лицензируемое добро, я начинал благотворительную деятельность еще в 1989 году и, если до этого закона, я мог находить способы не лицензировать свою деятельность, то после принятия закона меня могут обвинить в нарушении законодательства. Механизм репрессий еще более ужесточится.

***– Недавно Управление по координации гуманитарной деятельности ООН пересмотрело свою стратегию сбора средств международных доноров на проекты гуманитарной помощи странам, пострадавшим от аварии на ЧАЭС. Вы можете это как-то прокомментировать?***

– Еще в 1997 году я говорил, что если программы ООН будут реализовываться в Беларуси без постоянного контроля представителей ООН, их средства не будут использоваться целиком по назначению. И так происходило на деле, потому что результат почти всегда разочаровывал доноров. Я думаю, речь идет об изменении механизма финансирования программ, который осуществляется в Беларуси на государственном уровне. Это запоздалое, но очень правильное решение. А что это будет за механизм, я пока не знаю.

***– Возможно, речь идет не об изменении механизма финансирования, а о смене приоритетов в финансировании. Теперь средства ООН, которые предназначались на поддержание «саркофага» ЧАЭС, перенаправлены на гуманитарные проекты...***

– Тогда мы снова выходим на признание преимуществ тех видов гуманитарной помощи, которые создали негосударственные международные чернобыльские инициативы. Ведь наши программы не были связаны с созданием каких-то производственных мощностей, они шли непосредственно на поддержку здоровья и жизни человека. 95% средств международной негосударственной помощи идут на медицину, лечение и оздоровление детей. Значит, можно только порадоваться, что выработанные нами приоритеты сейчас приняты ООН как наиболее эффективные. Все, что направлялось ООН на саркофаг и капитальное строительство, в «хороших» традициях постсоветских стран, главным образом разворовывалось.

***– Ну а как Вы могли бы отреагировать на недавнее заявление Ивана Кеника, председателя Комитета по проблемам последствий катастрофы на ЧАЭС, о нецелесообразности закрытия этой атомной электростанции? Аргументировал Кеник свои слова заботой о тех 4.000 специалистах, которые могут остаться без работы.***

– Поражает абсурдность мышления наших чиновников. Они умудряются самые простые вопросы выворачивать таким образом, что никто потом не может понять, чем руководствовались эти люди. Если речь идет о том, чтобы гарантировать контроль над состоянием законсервированных энергоблоков, то для этого достаточно, во-первых, сохранить десятую часть специалистов. Во-вторых, затратить десятую часть тех средств, которые сегодня требует поддержание жизнедеятельности этих энергоблоков. А если говорить о потенциальной опасности для этих же 4.000 специалистов в настоящей радиационной обстановке, то я был в Славутиче, где живут эти специалисты. Я разговаривал с ними и их семьями, и я знаю их общее настроение. Жены прекрасно понимают, что сейчас происходит со здоровьем их мужей, и все они понимают, что станцию было бы лучше закрыть еще 5 лет тому назад. Безвыходная ситуация толкает людей рисковать собственным здоровьем и здоровьем своих детей. Эксплуатировать эту безвыходность и мотивировать этим целесообразность сохранения атомной электростанции. Ну, остается только руками развести.

*(Продолжение интервью в следующем номере)*

**Интервью брала Наталья РАДИНА**



Дома на острове Шпикерог, где живут больные дети из Беларуси



Фонд «Детям Чернобыля» организует оздоровительные поездки белорусских детей в санаторий «Лабек» (Германия)

